№ 137 (489)
Субота, 1 жніўня 1998 г.
Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля



Незалежная экспертыза

## Аб сцвярджэннях, якія набілі аскоміну

Ужо набілі аскоміну сцвярджэнні кіруючых асоб Беларусі аб тым, што будучыня нашай краіны залежыць толькі ад умацавання СНД. Маўляў, там наш асноўны рынак, асноўныя эканамічныя інтарэсы і толькі разам з імі мы зможам хутчэй выйсці з крызісу.

Ці так гэта на самай справе? Якая ж сапраўдная вага краін СНД у развіцці беларускай эканомікі? Перад мною даныя Міністэрства статыстыкі і аналізу аб знешнегандлёвым абароце за студзень — май сёлетняга года. Давайце пабачым, якая ўдзельная вага гандлю Беларусі з краінамі СНД.

| Краіна | Удзельная вага (у %) гандлёвых партнёраў у знешнегандлёвым абароце Беларусі | |
|---|---|---|
| | Экспарт | Імпарт |
| Азербайджан | 0,19 | 0,12 |
| Арменія | 0,02 | 0,03 |
| Грузія | 0,04 | 0,02 |
| Казахстан | 0,82 | 0,78 |
| Кыргызстан | 0,15 | 0,18 |
| Таджыкістан | 0,09 | 0,08 |
| Туркменістан | 0,07 | 0,06 |
| Узбекістан | 0,27 | 0,68 |

Як бачым, іх агульная доля ў нашым знешнегандлёвым абароце проста мізэрная, дзесьці ў межах 1,5 працэнта. Навошта ж нам тлумяць галаву байкамі пра вялікую ролю эканамічнага супрацоўніцтва з гэтымі краінамі? Вядома, што тут чыстая палітыка, спроба настроіць грамадскую думку на неабходнасць аднаўлення імперыі, а эканомікай і не пахне.

Набілі аскоміну і сцвярджэнні аб тым, што ў Еўропе нас ніхто не чакае, што там рынак падзелены і нашым таварам туды не прабіцца і г.д.

Паглядзім, як жа на самай справе. Вось даныя афіцыйнай статыстыкі, якія высвечваюць удзельную вагу еўрапейскіх краін у знешнім гандлі Беларусі.

| Краіна | Удзельная вага (у %) гандлёвых партнёраў Беларусі | |
|---|---|---|
| | Экспарт | Імпарт |
| Германія | 10,5 | 21,5 |
| Польшча | 9,7 | 9,2 |
| Літва | 7,2 | 6,5 |
| Італія | 4,3 | 6,1 |
| ЗША | 7,0 | 4,5 |
| Вялікабрытанія | 2,0 | 4,7 |
| Нідэрланды | 5,2 | 2,9 |
| Латвія | 5,2 | 2,5 |
| Францыя | 1,2 | 3,9 |
| Чэхія | 1,4 | 2,7 |
| Венгрыя | 2,4 | 1,9 |
| Бельгія | 1,6 | 2,0 |

Бачыце, наш гандаль з еўрапейскімі краінамі ў некалькі разоў перавышае вынікі супрацоўніцтва з былымі савецкімі рэспублікамі Закаўказзя і Сярэдняй Азіі.

Знешнегандлёвы абарот (у мільёнах долараў) за студзень — май склаў:

Усяго з краінамі далёкага замежжа — 1.993.7

У тым ліку з:

Германіяй — 353,3; Польшчай — 187,5; Літвой — 134,3; Італіяй — 108,5; ЗША — 107,4; Вялікабрытаніяй — 75,9; Нідэрландамі — 73,7; Латвіяй — 68,8; Францыяй — 59,1; Чэхіяй —45,1; Венгрыяй — 41,4; Бельгіяй — 36,9; Аўстрыяй — 30,7.

А цяпер зірнём на СНД. Вядома, на Расію і Украіну прыпадае асноўная доля. Знешнегандлёвы абарот з Расіяй склаў 4.164,5 мільёна долараў, з Украінай — 486,5 мільёна. А вось з астатнімі проста смешныя лічбы. Так, гандлёвы абарот з Азербайджанам за пяць месяцаў склаў 7,5 мільёна долараў, з Арменіяй — 1,1; Грузіяй — 1,6; Казахстанам — 38,3; Кыргызстанам — 8; Таджыкістанам — 4,1; Туркменістанам — 2,9; Узбекістанам — 22,9.

Такім чынам, увесь аб'ём гандлю з краінамі сярэдняй Азіі і Закаўказзя амаль у паўтара раза меншы, чым з адной Літвой ці адной Італіяй, у два разы з хвосцікам меншы, чым з Польшчай. Наш гандаль з Чэхіяй, Бельгіяй амаль у сорак разоў перавышае знешнегандлёвы абарот з Грузіяй, Арменіяй... А знешнегандлёвы абарот з адной Германіяй больш як у чатыры разы перавышае гандаль з усімі краінамі Сярэдняй Азіі і Закаўказзя. І гэта пры тым, што наша кіраўніцтва сваімі дзеяннямі абсалютна не спрыяе дзелавому супрацоўніцтву з Еўропай, пастаянна стварае палітычную напружанасць з вядучымі дзяржавамі старога кантынента.

Відаць, нікога не варта пераконваць у тым, што вырабы з Германіі, Францыі, Бельгіі, Англіі, ЗША намнога лепшыя, чым з Таджыкістана і Казахстана. Да таго ж партнёры з СНД прадукцыю бяруць, а грошы не плацяць. Па стане на 1 чэрвеня яны павінны Беларусі 15.021,5 мільярда рублёў. У тым ліку Азербайджан не заплаціў 28,8 мільярда рублёў; Грузія — 51; Казахстан — 186,9; Расія — 13.778,1; Таджыкістан — 96,4; Узбекістан — 135,4 мільярда рублёў і г.д.

Вось такая гандлёвая пятрушка.

Словам, Беларусь у Еўропе чакаюць, нягледзячы на штучныя перашкоды гандаль з ёй набірае абароты і прыносіць плён. Чаму ж нас пераконваюць у адваротным?

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

## Страсці вакол атамнай зацеі

Амаль сенсацыйнае паведамленне прагучала на навуковым семінары, які сабраў многіх вядомых даследчыкаў Беларусі і праходзіў у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры ў рамках праекта "Энергетычныя тэхналогіі XXI века". Размова зайшла аб магчымым будаўніцтве атамнай станцыі ў Беларусі. Аб тым, што ўжо вядзецца пошук пляцовак пад яе, гаварылася і раней. У афіцыйных сродках масавай інфармацыі ўжо разварнулася прапагандысцкая кампанія па апрацоўцы грамадскай думкі.

На семінары былі выказаны цікавыя думкі аб супрацоўніцтве ў галіне "атамнага будаўніцтва" з Мурманскай вобласцю. У прыватнасці, было паведамлена аб нарадзе прадстаўнікоў з Мурманска і спецыялістаў паліва-энергетычнага комплексу Беларусі. Здавалася б, якая сувязь паміж будаўніцтвам у нас АЭС і гэтай паўночнай губерніяй Расіі? Але дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што ў Мурманску зашмат атамных рэактараў, якія ўжо адпрацавалі сваё на падводных лодках і караблях і там цяпер не ведаюць, што з імі рабіць. Вось, не выключана, і мяркуюць збыць іх "па дзяшоўцы" Беларусі дзеля выкарыстання ў магчымых атамнаэнергетычных праектах.

У сувязі з такім развіццём падзей маладзёжныя суполкі распачалі рэйд на месцах, на якія ўжо "паклалі вока" атамшчыкі. Маладыя актывісты мяркуюць сустрэцца з жыхарамі, растлумачыць ім усю шкоднасць атамных станцый. У другой дэкадзе жніўня яны збіраюцца правесці акцыю пратэста каля Акадэміі навук, сярод спецыялістаў якой нямала прыхільнікаў атамнай зацеі.

**Васіль КРАЎЦЭВІЧ.**

Постфактум

## Так кто избивал 27 июля польского журналиста Цезария Галиньского и других демонстрантов?

### Какое отношение к этому имеет "Русское национальное единство"? О чем молчит белорусская милиция?



*На снимке: избиение журналиста Цезария Галиньского бритоголовыми хулиганами 27 июля 1998 года.*

Провокации против демонстрантов, мирно шествующих по столичным улицам в восьмую годовщину принятия Декларации о суверенитете Республики Беларусь, остались незамеченными государственными средствами информации. Молчит и столичная милиция, в руки которой 27 июля 1998 года были сданы бесчинствующие элементы. До сих пор хулиганы поименно не названы.

"Набрал в рот воды" и столичный Совет депутатов. А ведь Главное управление внутренних дел Мингорисполкома не выполнило принятое месяц назад требование **об обеспечении условий для беспрепятственного выполнения журналистами их профессиональных обязанностей во время общественно-политических мероприятий** (решение N175 от 17 июня 1998 года, пункт 8).

Принятие представителями народа столь строгого документа ничего не изменило в действиях столичной милиции. 27 июля 1998 года при исполнении своих профессиональных обязанностей был избит гражданин дружественной Польши, корреспондент "Газеты выборчей" Цезарий Галиньский. До сих пор правоохранительные органы, не обеспечившие неприкосновенность и достоинство личности (статья 25 Конституции), не принесли журналисту извинения и не проинформировали его о принятых мерах по отношению к хулиганствующим молодчикам.

Независимые белорусские и российские газеты ("БДГ", "Известия" и др.) сообщают, что на демонстрантов с криками "Русский порядок!" напали бритоголовые подростки в камуфляжной форме из организации "Русское национальное единство" (РНЕ). Официальную информацию на сей счет в Минске получить оказалось практически невозможно. В то же время московская газета "Известия" сообщает, что "...в милицейских сводках среди задержанных на следующее утро они не числились".

За четыре года президентского правления демонстрантами передан в руки милиции уже не один десяток лиц, совершающих хулиганские действия в ходе мирных шествий (читай — провокаторов). Но не было ни одного уголовного или административного процесса по нарушению порядка проведения демонстраций, митингов и пикетов этими лицами.

Вместо них к административной ответственности привлечены сотни участников мирных демонстраций, вся вина которых заключается в несогласии с внутренней и внешней политикой правящего режима.

Получается, что кое-кто действует с одобрения властей?

**Валерий ЩУКИН,**
**депутат Верховного Совета 13-го созыва, секретарь парламентской комиссии по национальной безопасности, обороне и борьбе с преступностью.**

Взгляд

## Выгнав послов, президент нарушил Закон "Об аренде"

Наши соседи по Европейскому дому, возмущенные неблаговидными действиями белорусских властей, резко ограничили контакты с большинством высших официальных лиц государства. Режим пошел на нарушение святая-святых условий пребывания в стране послов, предусмотренных Венской конвенцией о дипломатических отношениях.

Однако наш президент, выгнав послов из арендуемых зданий, нарушил не только международные законы. Грубейшим образом попрано национальное законодательство. В первую очередь Закон "Об аренде", не дающий права арендодателю (в данном случае главе государства) изменять в одностороннем порядке условия аренды.

**Статья 26:** "Реорганизация организации-арендодателя, а также перемена собственника арендованного имущества не является основанием для изменения условий или расторжения договора".

**Статья 27:** "Споры, возникающие при исполнении договора аренды, рассматриваются судами в соответствии с их компетенцией".

**Статья 28:** "Имущество арендатора может быть изъято у него только по решению суда.

**Статья 29:** "Условия договора аренды сохраняют свою силу на весь срок действия договора и в случаях, когда после его заключения законодательством установлены правила, ухудшающие положение арендатора".

Ни Конституция, ни закон об аренде не дают высшему чиновнику государства права изымать землю, здания и имущество у арендатора. Только ведь наш первый президент действует по своему разумению. Сегодня выгнал послов, завтра...

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

## Падатковая інспекцыя па Мінску прапануе павялічыць стаўкі фіксаванага падатку на шэраг тавараў пры іх рэалізацыі прыватнымі прадпрымальнікамі і прадпрыемствамі гандлю праз дробнарознічную сетку

Дзяржаўная падатковая інспекцыя па Мінску прапануе павысіць стаўкі фіксаванага падатку на шэраг тавараў пры іх рэалізацыі як прыватнымі прадпрымальнікамі, так і прадпрыемствамі гандлю праз сетку дробнай розніцы. Як паведаміў журналістам часова выконваючы абавязкі старшыні Мінгарсавета прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў (БСП) Уладзімір Карагін, адпаведныя прапановы падатковай інспекцыі ўжо перададзены ў гарвыканкам. Такім чынам, адзначыў У.Карагін, "восень для прыватных прадпрымальнікаў, якія працуюць па цвёрдых стаўках фіксаванага падатку, будзе трывожная з-за чакання павышэння падаткаў".

Цяпер усе дакументы, што датычаць прапановы падатковай інспекцыі, праходзяць экспертызу ў дэпутацкіх камісіях гарсавета, Мінскім саюзе прадпрымальнікаў і работадаўцаў, гарадскім прафсаюзе грамадзян-прадпрымальнікаў. Чакаецца, што па гэтай праблеме ў гарсавеце будуць арганізаваны дэпутацкія слуханні, а БСП правядзе шэраг кансультацый і нарад з прадстаўнікамі прадпрымальнікаў і спецыялістаў у галіне падатковай палітыкі. У гэтай сітуацыі У.Карагін заклікаў прадпрымальнікаў актыўна ўносіць свае прапановы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Незаконныя валютныя аперацыі абыходзяцца ў капеечку

Вялікую суму разнастайнай валюты ператварылі ў даход дзяржавы супрацоўнікі магілёўскай міліцыі.

Паводле інфармацыі, атрыманай БелТА ў прэс-службе МУС, у горадзе на Дняпры ў трох мясцовых грамадзян, прыцягнутых да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правіл валютных аперацый, было канфіскавана 1575 амерыканскіх долараў і 306 мільёнаў беларускіх рублёў.

А супрацоўнікі Савецкага РАУС Мінска па той жа прычыне канфіскавалі ў мінчанкі, якая парушала ўжо ў гэтым годзе правілы валютных аперацый, 10 мільёнаў беларускіх рублёў, 240 нямецкіх марак, 70 фунтаў стэрлінгаў і 55 долараў ЗША. Праводзіцца разбор.

**БелТА.**

## Мінскае "Дынама" і бабруйская "Белшына" выбылі з барацьбы за еўрапейскія футбольныя кубкі

29 ліпеня на футбольных палях Еўропы прайшлі матчы ў адказ першага кваліфікацыйнага раунда розыгрышу Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў і Кубка УЕФА. Абодва беларускія прадстаўнікі — мінскае "Дынама" (Кубак чэмпіёнаў) і бабруйская "Белшына" (Кубак УЕФА) — выбылі з далейшай барацьбы. Мінчане ўступілі на сваім полі рыжскаму клубу "Сконта" — 1:2 (першая сустрэча ў сталіцы Латвіі завяршылася нулявой нічыёй), а бабруйскія футбалісты прайгралі ў гасцях сафійскаму ЦСКА — 1:3 (першы матч — 0:0).

Такім чынам, у розыгрышы еўракубкаў-98/99 застаўся апошні беларускі клуб — віцебскі "Лакаматыў-96". 13 і 27 жніўня ў кваліфікацыйным раундзе Кубка ўладальнікаў кубкаў ён згуляе з другім сафійскім клубам — "Леўскі".

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

## Надвор'е

1 і 2 жніўня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць, 1 жніўня — месцамі па Магілёўскай, Мінскай і Брэсцкай абласцях, а 2-га — удзень па Гродненскай и Віцебскай — пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёвы, паўднёва-заходні няўстойлівы, слабы. Парывы да 4—9 м/с. Пры навальніцах парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра 1-га ўначы +12...+17, удзень +22..+27, па паўднёвым усходзе ўначы +17...+21, удзень +26...+31.

Інтерпретации

## Новые стратегические удары... "информационной войны"

Многие высокопоставленные должностные лица Беларуси не раз делали заявления о том, что против нашей республики ведется "информационная война". В подавляющем большинстве эти обвинения относились к российским средствам массовой информации. Недавний пример — ситуация вокруг посольских резиденций в Дроздах. В разгар дипломатического конфликта звучали слова о том, что СМИ России искаженно и тенденциозно отражают положение вещей...

Но, похоже, с недавнего времени белорусские власти обратили свои взоры и на "западный фронт" "информационной войны". 23 июля министр иностранных дел нашей республики Иван Антонович провел в МИДе брифинг для журналистов. На нем руководитель внешнеполитического ведомства сообщил, что на территории Польши сейчас ведется подготовка к созданию радиостанции "Свободная Беларусь", которая вещала бы на нашу страну. Данный факт Антонович расценил как противоречащий Договору о добрососедстве и дружественном сотрудничестве между Беларусью и Республикой Польша. Министр обосновал это тем, что, подписав договор, обе страны взяли на себя обязательства не предпринимать одна к другой действий, которые могут быть квалифицированы как враждебные. По мнению же Ивана Антоновича, вещание радиостанции будет иметь по отношению к Беларуси антигосударственный характер, что станет нарушением взятых Польшей на себя обязательств.

Появились новости и с "восточного фронта". Во время проходившего совсем недавно в Москве совещания в Исполнительном комитете Союза Беларуси и России опять обсуждался вопрос о создании телерадиовещательной компании Союза. Кроме того, появилась идея основания газеты, которая бы стала информационным органом Союза двух государств. Можно предположить, что если данные проекты в ближайшем будущем воплотятся в жизнь (а это представляется довольно маловероятным, учитывая экономическое положение в обоих государствах), то это станет для белорусских властей своеобразной компенсацией того, что они называют "информационной войной". Ведь средства массовой информации, в которые руководство нашей республики вложит деньги, вряд ли позволят себе критиковать его.

**Сергей КУЗНЕЦОВ.**

Роздум над фактам

## А калі ўсе пойдуць у мытнікі?

Ёсць факты, якія не толькі красамоўна характарызуюць чалавека, грамадства, але і яскрава высвечваюць перспектыву, будучыню як першага, так і другога. Калі я бачу, у якіх шыкоўных абноўках выступае "ўсерасійскі зайка", чытаю пра яго намеры пабудаваць вялізную дачу ў Балгарыі, і ў той жа час вядома, што буйнейшыя вучоныя паўгода не атрымліваюць зарплаты, дык ясна, што такая краіна не мае будучыні. Працвітаюць тыя грамадствы, у якіх вышэй за ўсё ацэньваецца праца людзей, якія ствараюць матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці — вучонага, хлебароба, інжынера, доктара...

На жаль, расійская хвароба перакінулася і на Беларусь. І ў нас найменей зарабляе і горш жыве менавіта стваральнік каштоўнасцей. Так, заробак хлебароба ў студзені — маі склаў у сярэднім 2 мільёны 49 тысяч рублёў, работніка прамысловасці — 4 мільёны 357 тысяч, навукоўца — 3 мільёны 983 тысячы. А вось мытнік атрымаў 7 мільёнаў 168 тысяч, работнік міжгаліновага органа гаспадарчага кіравання 7 мільёнаў 165 тысяч рублёў. Вялікая зарплата ў сілавікоў: міліцыянтаў, суддзяў, амапаўцаў.

У такім грамадстве вырошчваць хлеб, будаваць дамы, вынаходзіць і канструяваць новыя машыны не прэстыжна і нявыгадна. Каб прыгожа жыць, трэба ісці ў мытнікі, рэкеціры, амапаўцы, органы кіравання...

Нявыгадна ў Беларусі быць настаўнікам, работнікам культуры, урачом. Так, сярэдні заробак у студзені — маі склаў у работніка адукацыі 2 мільёны 924 тысячы рублёў, у культработніка — 2 мільёны 507 тысяч рублёў. А гэта значыць, што моладзь не атрымае добрай адукацыі, добрага здароўя, добрай маральнай загартоўкі.

Нашы суседзі: літоўцы, палякі, чэхі, венгры — таму і пайшлі шпарка наперад, што пачалі стымуляваць працу навукоўцаў, інжынераў, хлебаробаў...

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

Неожиданные закономерности?

## В Шуйской Чупе плохая погода, в Кремле — неотложные дела.

### Куда податься президенту России Борису Ельцину?

Подался он, как уже сообщала пресса, в подмосковную резиденцию "Горки-9", неожиданно прервав отпуск, который первоначально намеревался провести в Карелии с 18 июля и до конца (о чем "Народная воля" и информировала своих читателей в предыдущих номерах). Недобыл президент России в задождившей Шуйской Чупе дней шесть. Прогнозисты гадают, когда и куда он переместится далее. Говорят более определенно, что все же не в резиденцию "Барвиха", оснащенную медицинским оборудованием.

О причине досрочного возвращения в Кремль Борис Ельцин заявил, что в Москве его ждут "неотложные дела". Непогодь досаждает не только в природе, но и в политике, и в экономике... За время отпуска главы государства шахтерские акции протеста набрали угрожающий размах. Приблизился беспокойный осенний политический сезон. Намечается вроде еще одна перетасовка кадров в правительстве Сергея Кириенко.

Просачиваются слухи, будто президент России не оставил без внимания и то, что чертова дюжина подчиненных ему губернаторов, главным образом из "красного пояса", отбыла в Беларусь. Там вместе с президентом Александром Лукашенко главы регионов побывали в Беловежской пуще, где посетили Вискули, столь памятные Борису Николаевичу по событиям декабря 1991 года. Гости вели закрытые переговоры о чем-то с Александром Григорьевичем, который, помнится, еще году в 1993, будучи депутатом, грозился "отловить пущистов"...

**Людмила ВАЛЕНТИНОВА.**

Факт

## Визит российских губернаторов

Как известно, накануне это событие широко рекламировалось государственными СМИ Беларуси. Первоначально ожидали порядка 40 глав регионов союзной России. Официальным поводом было их гостеванье на закрытии "Славянского базара в Витебске". Фактически прибыли 13 губернаторов и группа других высокопоставленных представителей областей и краев. Практически формальный мотив посещения отошел на второй план. Визитеры побывали в Бресте и Вискулях, а уж потом отметились в Витебске. Встречались с президентом республики Александром Лукашенко — и напоказ перед телекамерами, и в отсутствие журналистов.

Комментарий

## И кто его знает, чего прилетали?

Вспомнить надо и тех, кто не прилетел. Ведь зазывала Беларусь и руководителей администраций областей Украины, но они приглашением не воспользовались. Без украинцев не афишируемая, но подразумевающаяся идея собирания славянских земель — начиная с Бреста — выглядела несколько ущербной. Ее, понятно, в отчетах о событии педалировать не стали, как не очень удавшуюся на сей раз.

В историческую деревню Вискули в Беловежской пуще, где "на троих" Борис Ельцин, Леонид Кравчук и Станислав Шушкевич "развалили Союз", спустя примерно шесть с половиной лет "возвратились" не все, а только белорусская и российская стороны. Что бы означало это паломничество в историческое место? Судить об этом можно опосредованно. Например, по цитате из уст заместителя администрации Амурской области Сергея Лаврикова: "Только в обновленном союзе народов, живших некогда единой семьей, мы видим надежду на будущее процветание". Намек вполне прозрачен.

Другая, кроме воссоздания ядра Союза из трех сестер-славянок, политическая цель визита тоже читается между строк. Ведь в России начата процедура импичмента президенту, и как раз сейчас созданная Госдумой комиссия ведет расследование "беловежского преступления" Бориса Ельцина. В связи с этим трудновато счесть случайностью поездку в Вискули губернаторов, большая часть которых в оппозиции к Борису Николаевичу.

Есть основания говорить об укреплении межличностных альянсов. Не прилетел, скажем, из Красноярска губернатор Александр Лебедь, но прибывший в Беларусь его заместитель Владимир Семенов выразил поддержку сибиряков Александру Лукашенко. Губернатор Псковской области Евгений Михайлов тоже поддержал гостеприимного хозяина, осудив происки Запада против него, в том числе в Кран-Монтане. Краснодарский лидер Николай Кондратенко обругал российские телеканалы за "напёх" на белорусского друга. Хозяин Ставрополья Александр Черногоров пригласил Лукашенко в гости в свой регион, демонстрируя тем самым приверженность российской глубинки президенту союзной Беларуси.

Общая позиция губернаторов и других чиновников областного масштаба Российской Федерации складывалась примерно из тех же мнений, которые озвучили вышеперечисленные персоны. Разумеется, что фоном политических деклараций служила экономическая интеграция между двумя странами на основе прямых связей белорусских предприятий с предприятиями Ярославля и Владимира, Тулы и Липецка, Удмуртии и Таймыра и так далее.

Кажется, лишь уклонение украинцев от тройственного вече в Вискулях выпадает из расписанного, надо полагать, сценария. Россияне же, как представляется, отработали в Беларуси все, что было выгодно Александру Лукашенко. В большой политике, как все знают, каждый блюдет свою выгоду.

Что же получили взамен 13 губернаторов на риск вызвать, мягко говоря, неодобрение главы государства российского? Сами они наверняка отдают себе отчет в том, о чем же торговались с белорусским главой, какие гарантии получили, что поимеют в будущем. Нам пока что остается гадать по-простонародному... И кто его знает, чего прилетали?

**Людмила МАСЛЮКОВА,**
**политический обозреватель "Народной воли".**

